№140 (1703)

Аўторак, 5 жніўня 2003 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамодою...*

Якуб КОЛАС

# Народная Воля


E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +24...+26, уначы — +14...+16; у Брэсце ўдзень — +23...+25, уначы — +14...+16; у Гродне ўдзень — +23...+25, уначы — +14...+16, сонечна, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +21...+23, уначы — +13...+15; у Гомелі ўдзень — +24...+26, уначы — +15...+18; у Магілёве ўдзень — +22...+24, кароткачасовы дождж, уначы — +14...+16, без ападкаў.

*www.meteo.by*


Пейджинговую связь редакции обеспечивает
МОБИЛКОМ пейджинг-система
(017) 209-45-45
(017) 209-45-55


**ПУЛЬС**

## Місія АБСЕ занепакоена праблемамі Беларусі

Сітуацыя з незалежнымі СМІ ў Беларусі "крытычная і працягвае пагаршацца". Пра гэта на сустрэчы з журналістамі ў Мінску заявіла прэс-сакратар офіса АБСЕ ў Беларусі Хайдзі Сміт.

"Гэта сапраўды самая сур'ёзная праблема ў Беларусі, і мы робім усё, што ў нашых сілах, для таго, каб прадухіліць далейшае пагаршэнне сітуацыі", — сказала прэс-сакратар місіі АБСЕ.

Як паведаміла Х.Сміт, пагаршэнне сітуацыі з незалежнымі СМІ ў Беларусі было адзначана і ў дакладзе ўпаўнаважанага АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Фраймута Дуве, які прагучаў 30-31 ліпеня ў Вене.

Хайдзі Сміт зазначыла таксама, што офіс АБСЕ не пакідае без увагі сітуацыю са знікненнем людзей у Беларусі. "Мы працягваем праводзіць маніторынг і дакладваем аб гэтай сітуацыі... Офіс АБСЕ падтрымлівае намаганні тых, хто жадае ведаць праўду пра тое, што здарылася з прапаўшымі людзьмі", — сказала прэс-сакратар.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Падаражаў расійскі газ

З 1 жніўня незалежныя расійскія пастаўшчыкі прыроднага газу ў Беларусь — нафтагазавая кампанія "Ітэра" і ААТ "Транснафта" — на 9,6 працэнта павышаюць кошт паставак прыроднага газу ў Беларусь.

Як патлумачылі БелаПАН у прэс-службе ААТ "Белтрансгаз", павышэнне цэн звязана з тым, што з 1 жніўня ААТ "Газпрам" на 20 працэнтаў павялічыў кошт паслуг па транспартаванні газу для незалежных пастаўшчыкоў.

**Лавінія АРЭШКА, Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Прадаецца... праспект

Канцэпцыя забудовы мінскага праспекта Дзяржынскага (ад уезду ў горад да вуліцы К.Цэткін) разгледжана і ўхвалена на архітэктурным савеце камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкама.

План забудовы праспекта, даўжыня якога складае 7 кіламетраў, разглядаўся асобнымі ўчасткамі. Гэтыя ўчасткі да канца года будуць прапанаваны на аўкцыёнах інвестарам для паэтапнага асваення.

Канцэпцыя прадугледжвае размяшчэнне ў гэтай частцы горада высокашчыльнай жылой і змешанай забудовы (да 7 тыс. квадратных метраў на гектар). Тут пачнуць будавацца 9-, 10-, 12- і 15-паверховыя дамы, адміністрацыйныя будынкі, аб'екты грамадскага прызначэння і аўтастаянкі.

**Лавінія АРЭШКА.**

# Амерыканскі пірог

### «Песняры» звярнуліся да Лукашэнкі з просьбай прызначыць мастацкім кіраўніком ансамбля Леаніда Барткевіча

Адна з галоўных рыс таталітарнай дзяржавы — імкненне кіраўніка дзяржавы кантраляваць любую палітычную і грамадскую актыўнасць у краіне. Гэта вядома. Але адна справа, калі ён сам спрабуе ўсё паставіць пад уласны кантроль, і зусім іншая, калі гэтага кантролю прагне сама "чэлядзь".

Цікавая ў гэтым сэнсе гісторыя адбылася днямі з папулярным гуртом "Песняры", удзельнікі якога накіравалі на адрас Аляксандра Лукашэнкі зварот. У ім музыкі просяць "бацьку" прызначыць мастацкім кіраўніком іх калектыву заслужанага артыста Беларусі Леаніда Барткевіча. Нагодай для звароту стала прызначэнне міністрам культуры 28 ліпеня на пасаду дырэктара "Песняроў" саліста Валерыя Скаражонка.

У лісце да Лукашэнкі адзначаецца, што ўсе супрацоўнікі калектыву абураны загадам міністра культуры. *"У прафесійным, творчым і маральным аспектах, а таксама не маючы адпаведнай адукацыі (ні сярэдняй спецыяльнай, ні вышэйшай), В.Скаражонак не адпавядае пасадзе дырэктара калектыву. Ён не мае аўтарытэту ні ў аднаго з яго работнікаў"*, — гаворыцца ў лісце. Удзельнікі "Песняроў" таксама просяць Лукашэнку "падтрымаць легендарны ансамбль" і "прадухіліць развал калектыву, які ўжо ўзняўся на ногі пасля смерці Уладзіміра Мулявіна, — нацыянальнага гонару беларускага народа".

Начальнік упраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Барыс Лазука ў інтэрв'ю БелаПАН заявіў, што *"прызначэнне дырэктара любога калектыву адбываецца на падставе загада міністра культуры". "Ні ў адным з выпадкаў, — сказаў ён, — ніводную пасаду дырэктара, кіраўніка, адміністратара не абмяркоўвалі ў калектыве". "Гэта бессэнсоўная справа, — заявіў Б.Лазука. — Мы шукаем чалавека па якасцях, справах і г.д. За ўсім гэтым стаіць наша цвёрдае жаданне навесці парадак у ансамблі. Калі звярнуцца да фінансавага боку дзейнасці калектыву, то можна ўбачыць, што ён знаходзіцца на самым апошнім радку калектываў і ўстаноў культуры, якія павінны выконваць план. План яны не выконваюць, грошы не зарабляюць, дысцыпліна ў калектыве, апошнім часам асабліва, развалілася настолькі, што няма слоў".*

Дзіўна, што музыканты вырашылі не абмяркоўваць гэтую балючую справу з чыноўнікамі Міністэрства культуры і нават не паспрабавалі вылучыць пытанне: "А чаму наогул Мінкульт займаецца не прывычнай для яго справай", а пабеглі жаліцца адразу да галоўнага "суддзі".

Вельмі б хацелася пагутарыць на гэты конт з самім Леанідам Барткевічам. Але Леанід Леанідавіч, на жаль, аказаўся сапраўдным беларускім "партызанам": яго хатні тэлефон не адказваў, а на мабільным мне з раздражненнем адказалі, што Барткевіч у чарговы раз змяніў нумар.

Але ўсё ж думаецца, што наш паважаны спявак ставіцца да апошняй акцыі сваіх калег са значнай доляй сарказму і гумару. "Залаты голас Беларусі" не сядзеў, як вядома, усё сваё жыццё ў Белавежскай пушчы, "где трава высока, там, где заросли гуще", і не слухаў выключна гістарычныя прамовы чарговага кіраўніка краіны, а, наадварот, — шмат вандраваў па свеце. І нават даволі працяглы час жыў у ЗША разам са сваёй былой жонкай гімнасткай Вольгай Корбут і сынам Рычардам.

І таму Барткевіч наўрад ці можа ўявіць сабе сітуацыю, каб раптам калектыў амерыканскага гурта "Бон Джови" звярнуўся з лістом да прэзідэнта ЗША Джорджа Буша з просьбай прызначыць на пасаду творчага кіраўніка гурта яго заснавальніка і саліста Джона Бон Джові. Лічу, што калі б у адміністрацыі амерыканскага прэзідэнта такі ліст атрымалі, то адразу на адрас яго аўтараў выслалі б хуткую псіхіятрычную дапамогу...

Але Леанід Леанідавіч даўно ўжо не жыве ў ЗША і, мусіць, забыў, які смак мае амерыканскі пірог. Беларускія дранікі, як кажуць, "со всеми вытекающими последствиями", яму зараз бліжэй...

**Алесь СІЛІЧ.**

**На фота:** *Леанід БАРТКЕВІЧ.*

**Фота IREX/ProMedia.**

# «Будоўля стагоддзя» зрабілася хранічнай

### *На Мінскай кальцавой дарозе, рэканструкцыя якой скончылася 9 месяцаў таму, зноў з'явілася тэхніка і загараджальныя слупы.*

У лістападзе мінулага года на афіцыйным адкрыцці МКД чыноўнікі падкрэслівалі, што ўрэшце мы атрымалі сучасную трасу, якая адпавядае сусветным стандартам. І што спешка ў працы (рэканструкцыя праводзілася ў кароткі тэрмін — замест пяці на працягу двух гадоў) не паўплывае на якасць дарогі.

Аднак толькі за паўгода эксплуатацыі трасы ўжо не раз яе рамантавалі. Дастаткова ўзгадаць, як у жніўні мінулага года пасля навальніцы прасеў асфальт на ўчастку дарогі каля ўрочышча Курапаты, альбо як у раёне Чыжоўкі будаўнікам прыйшлося перарабляць верхні слой асфальту амаль праз месяц пасля эксплуатацыі трасы.

Зараз зачынены на рамонт участак аўтадарогі ад Слуцкай развязкі да Магілёўскай. Спецыялісты *"Белаўтадара"* сцвярджаюць, што на мінскім "кальцы" праводзяцца планавыя прафілактычныя работы і гэта ні ў якім разе не азначае, што дарога дрэнная. Начальнік упраўлення ўтрымання дарогі дэпартамента ***Васіль Якаўлеў*** вобразна параўноўвае аўтадарогу з жаночым тварам. "Як і жанчына, каб падтрымліваць свой знешні выгляд, вымушана карыстацца рознымі крэмамі, так і дарогу трэба ахоўваць, — кажа ён. — Таму мы пачалі работы па ўдасканаленні дарожных пакрыццяў: праводзіцца паверхневая апрацоўка палатна шчэбнем. Прафілактычныя работы — гэта практыка сусветная. Нават у Германіі дарожнікі вымушаны яе прымяняць. Можа толькі не так часта, як мы".

Паводле слоў Якаўлева, праводзіць адпаведныя работы ў час рэканструкцыі было немагчыма, таму што тэхналагічна забараняецца класці шчэбень на свежы асфальт. Аднак паверхневая апрацоўка дарогі праводзіцца састарэлым метадам: на гарачы асфальт укладваецца шчэбень. Мікашэвіцкі завод, які пастаўляе сыравіну, не мае сучасных шведскіх альбо чэшскіх каменедрабілак, каб выпускаць дробны друз, як гэта робіцца ў еўрапейскіх краінах. Таму на дадзеных участках трасы дарожнікі раяць вадзіцелям рухацца на невялікай хуткасці і трымацца ад папярэдняй машыны на адлегласці 30-50 метраў. Шчэбень, які ляціць з-пад колаў суседняй аўтамашыны, можа пашкодзіць знешны выгляд аўтамабіля, разбіць лабавое шкло.

Нязручнасць на дарозе вадзіцелям прыйдзецца цярпець яшчэ доўга. Работы па ўдасканаленні дарожных пакрыццяў працягнуцца да 2005 года. У хуткім часе загараджальныя слупкі і дарожныя знакі, якія дазваляюць рухацца толькі з хуткасцю 40-50 кіламетраў у гадзіну, з'явяцца каля Віцебскай развязкі. Затым будаўнікі пачнуць рухацца ў бок брэсцкага напрамку.

Узнікае зусім заканамернае пытанне: ці трэба было так паспешна рэканструяваць трасу, каб амаль праз некалькі месяцаў эксплуатацыі зноў яе рамантаваць? "Будоўля стагоддзя", як называлі рэканструкцыю МКД, каштавала дзяржаўнаму бюджэту 130 млрд. рублёў. І як бачна сёння, гэта далёка не канчатковая сума, якая, між іншым, фарміруецца з нашых падаткаў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

**ЗАДУМАЕМСЯ...**

# З кім ты, Ягор Хрусталёў?

*Даўно вядома, што ў сельскай гаспадарцы, футболе і культуры разбіраюцца ўсе. І таму няма нічога дзіўнага і нечаканага ў тым, што на тэлеканале АНТ адной з тэм дыскусій у ток-шоу "Выбар" ягоны элегантны вядучы Ягор Хрусталёў адзначыў апошнюю. Прытым пытанне, прапанавае ім для абмеркавання, было сфармулявана куды больш радыкальна, чым славутае горкаўскае "З кім вы, майстры культуры?". Яно гучала трывожна і глабальна: "Ці лічым мы сябе культурнай нацыяй?". Міжволі ў памяці ўсплываў амаль забыты ўжо плакат з суровым тварам маці-Радзімы...*

Трэба аддаць належнае арганізатарам перадачы: аўдыторыя была запрошана разнастайная і дасведчаная — ад сімпатычных маладых паэтаў да салідных сівагаловых майстроў сцэны і рана палыселых навукоўцаў. І гаварылі яны разумна і заклапочана, спасылаліся на вопыт мінулых стагоддзяў і балючыя праблемы нашых дзён. Праўда, дыскутантам відавочна не хапала ўзаемаразумення, "стыкаванасці", бо само паняцце культуры (а гэта, як сведчыць тлумачальны слоўнік, — "сукупнасць дасягненняў грамадства ў вытворчым, грамадскім і культурным жыцці" ) вельмі ж ужо шырокае, а вядучы чамусьці не палічыў патрэбным "завузіць" яго. Вось і перакідалася гаворка ад традыцый агульначалавечых да модных тэлесерыялаў, ад выхавання шляхетных дзяўчат да гістарычных каранёў літаратурных пошукаў. Урэшце так і не было зразумела, а што ж збіраецца высветліць вынесенае на экран жорсткае пытанне — наяўнасць у беларусаў сваёй адметнай культуры ці адносіны сучаснікаў да набыткаў цывілізацыі.

Ужо з самага пачатку ў мяне склалася ўражанне, што шматвопытны вядучы да сур'ёзнай размовы па зусім няпростым пытанні падрыхтаваўся слаба. Ён не вёў перадачу, а спрабаваў, на манер канферансье, неяк (часцей за ўсё наіўна і блытана) звязаць дрэнна між сабою звязаныя выступленні. Да таго ж практычна ва ўсіх ягоных рэпліках "вытыркалася" самаўпэўненае меркаванне аб "другараднасці", несамастойнасці беларускай культуры. З дзяжурнай мілай усмешкай ён раз-пораз напамінаў, што Беларусь знаходзіцца на скрыжаванні еўрапейскіх дарог, што жывуць у ёй прадстаўнікі многіх нацыяльнасцяў і ў яе гісторыі перапляліся розныя ўплывы і запазычанні. Аднаго разу ён так і сказаў: культура Беларусі складвалася з культур іншых народаў. Як быццам бы на культуру Расіі, напрыклад, зусім не ўздзейнічала культура Францыі і Іспаніі, а ў суседніх Польшчы і Украіны ніколі не чыталі Байрана і Гётэ.

Павярхоўнасць, наогул характэрная для Хрусталёва, у гэтым "Выбары", на маю думку, падвяла яго да небяспечнай мяжы прафесійнай і палітычнай безадказнасці. Тое, што ён толкам не ведае, не любіць і не хоча прызнаваць прызнанае ўсім светам, — ягоная асабістая справа. Але як для прыкметнага на дзяржаўным тэлеэкране чалавека для яго павінна быць абавязковай дасведчанасць у гісторыі і культуры таго народа, за чые грошы ён мае неблагі спажытак. Спадзяюся, што ён чуў імёны Францішка Скарыны і Кірылы Тураўскага, Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, гартаў славуты Статут Вялікага княства Літоўскага, любаваўся, хай сабе толькі на фотаздымку, крыжам Еўфрасінні Полацкай... Дык чыё ж гэта ўсё, калі не спаконвечна беларускае? Чыім талентам, чыёю святою працаю створана? Кім і адкуль "прынесена"?

У сваіх грэблівых пасажах на адрас беларускасці Я.Хрусталёў зрабіў сенсацыйную заяву. Ён на поўным сур'ёзе абвясціў, што перакананы, быццам на ўсходзе Беларусі жыве адна нацыя, а на яе захадзе — ужо іншая. (Пэўна, на падставе таго, што гутарковая мова палешукоў прыкметна адрозніваецца ад гаворкі слуцакоў). Як бачыце, на АНТ з'явіўся буйны тэарэтык нацыянальнага пытання і яшчэ адзін карыфей мовазнаўства.

Дарэчы, з лаўрамі мовазнаўцы Ягор Хрусталёў залішне паспяшаўся. Усю перадачу, прыкладна палова ўдзельнікаў якой гаварыла па-беларуску, ён падкрэслена вёў па-руску. Навуковец Вадзім Салееў дык адчуў, што гаварыць пра беларускую культуру, ігнаруючы мову, мякка кажучы, няёмка, і перайшоў на мову карэннага насельніцтва краіны. А інтэлігентны выглядам тэлебос не адчуў, хоць якраз яму як дзяржаўнаму службоўцу (а ён фактычна такім і з'яўляецца) у адпаведнасці з Законам аб мовах у Рэспубліцы Беларусь неабходна свабодна валодаць абедзвюма дзяржаўнымі мовамі. Ды дзе там! "У советских собственная гордость", як пісаў некалі Маякоўскі...

Самае ж цікавае і нечаканае адбылося ў канцы перадачы. Калі выдатны наш рэжысёр Барыс Луцэнка з жахам успрыняў тое, што большасць тэлегледачоў, якія патэлефанавалі ў студыю, лічаць, што мы не з'яўляемся культурнай нацыяй, дык Ягор Хрусталёў сустрэў гэта з непрыхаванай радасцю і даверліва прызнаўся, што ён цалкам падзяляе такую думку. Шкада толькі, што ён забыўся паведаміць, ці лічыць сябе культурным чалавекам і што для яго асабіста стаіць за словам "культура"...

Ва ўсёй гэтай, па-мойму, вельмі сумнай гісторыі мяне суцяшае адно: што б там ні казалі, як бы ні вылузваліся з імперскай скуры маладыя тэлевядучыя ці старыя палітычныя кан'юнктуршчыкі, беларуская культура ёсць і жыве. Нядаўняе сапраўды ўсенароднае развітанне з выдатным нашым пісьменнікам Васілём Быкавым бліскуча пацвердзіла гэта. А тое, што дзяржава і яе паслухмяныя сродкі масавай інфармацыі стараюцца яе адціснуць у цень і прынізіць — спадзяюся, з'ява часовая. Хаця, як паказала "галасаванне" тэлегледачоў, тыя штодзённыя намаганні не праходзяць бясследна...

І ўсё ж мы — культурная нацыя. Я гэта сцвярджаю адназначна. Вось толькі не навучыліся яшчэ даражыць сваімі геніямі, ведаць свае духоўныя скарбы, ганарыцца прыналежнасцю да свайго працавітага, вялікадушнага і таленавітага народа.

Дык што — значыць, нам усё ж не хапае культуры ў адносінах да ўласнай нацыянальнай культуры? Напэўна, так. На вялікі жаль, такі наш беларускі парадокс...

**Генадзь БУРАЎКІН.**

*Ягор Хрусталёў.*

**Фота IREX/ProMedia.**

**ЭКОНОМИЧЕСКИЙ БАРОМЕТР**

## Лишь отрывают от дел

*На счету сельчан нынче каждая минута. Ведь идет трудная уборочная страда. Но власти, вместо того чтобы наладить как след ремонт техники и решать другие неотложные проблемы, увлеклись , как и в былые советские времена, политинформациями, чем лишь отвлекают людей от дела.*

Начальник управления информации Минского облисполкома Татьяна Дедух сообщила агентству БелТА, что в идеологической работе задействованы 22 региональных штаба, 127 районных и 337 сельских информационно-пропагандистск их групп, в задачу которых входит координация идеологической работы, доставка к месту работы свежих печатных изданий. В некоторых райисполкомах области созданы собственные пресс-центры.

## Жителям Бреста не хватает пива и кваса

*В эти жаркие дни, а температура воздуха в городе над Бугом достигает в тени 30 градусов, акционерное обществ "Брестское пиво" с трудом поспевает утолить жажду населения. Как сообщили на предприятии, торговля ежедневно заказывает около 15 тысяч литров пива, а завод выпускает за две смены только половину этого количества.*

Сейчас брестчане каждый день употребляют и более 20 тысяч литров самого популярного народного напитка — хлебного кваса. Но и этого количества не хватает. Спрос на хлебный квас на предприятии готовы удовлетворить полностью и выпускать его в день до 60 тысяч литров. Однако не хватает квасных бочек, которые не производятся в нашей стране, а тара из России слишком дорогая.

## И это пособие?

*Количество безработных за первое полугодие увеличилось на 4 тысячи человек, или на 2,8%. По данным Министерства статистики и анализа в конце июня в стране была зарегистрирована 141 тысяча безработных. Это больше аналогичного периода прошлого года. Уровень безработицы составил 3,2% от экономически активного населения.*

К этому следует добавить, что многие работники трудятся либо неполную рабочую неделю, либо находятся в вынужденных отпусках по инициативе администраций. Так что реально количество безработных выше.

Надо отметить малое пособие по безработице. Средний его размер в июне составил 22 тысячи рублей, или примерно 10 долларов. Для сравнения: в соседней Польше пособие по безработице составляет 100 долларов. У нас сумма пособия составляет лишь 1/10 части средней зарплаты, в Польше — 1/4.

**Подготовил к печати**
**Евгений ТАВГЕНЬ.**

# Превентивный удар,

### или Для чего в сезон отпусков поштучно свозили в Минск журналистов из российских регионов

**Анатолий ЛЕБЕДЬКО,**
**председатель Объединенной гражданской партии**

Лето... В Европе — это время отдыха и политического затишья. В Беларуси очередная битва за урожай, за рейтинг, за референдум.

Вспотевшее лето едва перевалило за экватор, а в Минске уже включили котлы искусственного разогрева политической ситуации. Согласитесь, должны быть очень веские причины, чтобы в сезон отпусков поштучно свозить в Минск журналистов из российских регионов и в течение четырех часов проводить с ними селекторное совещание по подготовке правильных статей и репортажей о политике белорусского руководства.

Что же заставило "Красный дом" оплачивать свое гостеприимство деньгами белорусских налогоплательщиков и суетливо спешить, словно через месяц другой Беларусь окунется в омут больших событий?

### Версия первая

Отношения "Красного дома" и Кремля опустились до критического уровня, или, говоря словами Александра Григорьевича, ниже колена. Не исключено, что московские информаторы слили в возбужденное сознание белорусского правителя информацию о готовящемся плане действий, разработанных кремлевскими политтехнологами. В этой ситуации лучшая защита — это нападение, и вошкание с журналистами — это ничто иное, как превентивный удар, призванный смягчить последствия процесса "отделения мух от котлет".

Однако до марта 2004 года, когда в России состоятся президентские выборы, следует исключить вероятность публичной дискуссии Путина с Лукашенко. Кремль вряд ли пойдет на потерю достаточно большого количества голосов российских избирателей, симпатизирующих белорусскому интегратору. Но это не исключает ужесточения давления на Минск через экономические механизмы. В этой ситуации Лукашенко вынужден пытаться обострить ситуацию и максимально откровенно высказываться об отличиях белорусской и российской политики. Расчет как раз на то, что российский президент не ввяжется в словесную дуэль. Отсюда и некорректные заявления типа "Володя и Джордж". И критика позиции Путина по отношению к олигархам, процесса реформирования российской армии. И нескромное противопоставление заботливого, внимательного к спортсменам и деятелям культуры Александра Григорьевича и равнодушного Владимира Владимировича. Несмотря на то, что лохматое, эмоциональное интервью в телевизионной версии подстригли, подчистили, все равно из него явственно выпирали антипутинские пассажи.

### Версия вторая

Белорусский правитель не намерен без боя отказываться от титула первого интегратора, собирателя земель бывшего СССР. В межгосударственных делах, в тусовке СНГ Лукашенко хочет иметь вес медведя, а не перепела. Ему тесно в майке с эмблемой Беларуси и не хочется признавать приставку "экс" в вопросе лидерства. Он жаждет продлить свое политическое долголетие, позиционируя, как идеологический лидер оппозиции Путину на постсоветском пространстве. Подтверждением чему являются многочисленные заявления Лукашенко. *"По исторической привычке смотрим на Москву и видим, что она даже не осознает необходимости идеологического выбора. Россия сегодня перестает быть, к сожалению, духовным и культурным оплотом восточноеврозийской цивилизации... Все это позволяет говорить, что временем, судьбой, ситуацией Беларусь выдвинулась на, наверное, великую роль духовного лидера восточноевропейской цивилизации. Множество людей в России, Украине и других странах смотрят на Беларусь как на пример последовательной и самостоятельной политики. Беларусь должна притягивать силы патриотической направленности со всего нашего постсоветского пространства. Именно здесь люди должны получать трибуну от неолиберального террора и травли"*. В этих словах Лукашенко четко обозначены не тактические, а стратегические, фундаментальные расхождения с политикой Владимира Путина и его окружения. Это означает, что строительство белорусско-российских отношений происходит на болоте, причем по разным чертежам.

Ожидание того, что после президентских выборов в России его начнут "мочить", заставляет Лукашенко работать над своим образом и над компанией по его продаже на российском политическом рынке. Важно обозначить, за что Александра Григорьевича будет душить в объятиях "старший брат". Не за дискредитирующий Москву имидж "последнего диктатора Европы", не за политику наперстничества в отношении российского бизнеса, не за депортацию из Беларуси Немцова и корпункта НТВ, а за то, что в отличие от Путина Лукашенко не стал прогибаться перед Джорджем и Герхардом за то, что призывал идти не в Европу, а призывал возвращаться в СССР, за то, что не повел Беларусь за цивилизованным миром.

### Версия третья

Она касается исключительно внутриполитической ситуации в Беларуси. Несмотря на то, что четырехчасовой спич Лукашенко был обращен к российскому потребителю, его результаты предназначены для использования в Беларуси.

Лукашенко, видимо, смирился, что российский журавль улетел, оставив обжигающее перышко в руке. Не выпустить бы белорусскую синицу. Если это так, то мероприятие есть ничто иное, как информационное обеспечение белорусского референдума в России. Никогда Лукашенко не проводил референдумы без политической поддержки со стороны Кремля. На календаре август, а благословения из Москвы нет. **Оно возможно, но в обмен на единый эмиссионный центр, на продажу ряда предприятий Беларуси, но по российским ценникам.**

Путин, отвечая на вопрос британского журналиста о его отношении к перспективе продления полномочий Лукашенко, дипломатично сослался на суверенное право Беларуси решать этот вопрос, но лично он не собирается кромсать российскую Конституцию ради удовлетворения своих политических амбиций. Подтекст сравнения очевиден. Эффектный удар, что называется, не в бровь, а в глаз.

На что же тогда рассчитывает белорусский правитель? На то, что Россия будет действовать по известному принципу: "Лукашенко сукин сын, но наш сукин сын". Что на чаше весов геополитические интересы перевесят обиды и раздражение. Но для этого надо, чтобы хотя бы часть общественного мнения в России разделяла подобный подход. Вот и пытается официальный Минск поднять информационную волну, которая бы накрыла Кремль. Но выплеснется ли она дальше Пскова или Тулы — большой вопрос.

А пока политический барометр температурных изменений не зафиксировал ни здесь, ни там. Несколько общих замечаний. Александр Григорьевич пытается брать не качеством, а количеством. Это о временных рамках мероприятия. Лукашенко знавал и лучшие времена, когда его авиалайнер свободно парил над Россией, а ученые Новосибирска, казаки Ставрополя и моряки Владивостока из первых уст внимали слово белорусского правителя. Это о форме общения. Достигнет ли "Красный дом" поставленных целей? В день отъезда из Минска российских журналистов, обвешанных пакетами с сувенирами, Белорусское телевидение высказало опасения, что издательства и телекомпании не пропустят слово правды о Беларуси и ее выдающемся лидере. Вот так может и получиться. Там не пропустят в эфир, а здесь пропустят мимо ушей. Надоел!

